На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб Колас

№ 177 (759)
Субота, 25 верасня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., па падпісцы — 11000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля










**Официально**

## Соединенные Штаты глубоко озабочены исчезновением противников режима Лукашенко

*Мы уже сообщали о реакции США на исчезновение Виктора Гончара. На днях редакцией получено официальное сообщение Госдепартамента этой страны. Ниже даем его текст.*

**Заявление Джеймса Фоули, заместителя Пресс-секретаря Государственного департамента США**

Вечером 16 сентября 1999 г. исчез Виктор Гончар, заместитель председателя Верховного Совета 13-го созыва и один из лидеров белорусской оппозиции. Незадолго до исчезновения г-н Гончар позвонил жене, чтобы сообщить, что скоро будет дома. Однако домой он не вернулся, и до сих пор его местонахождение неизвестно.

Исчезновение Виктора Гончара — не первое среди основных оппонентов режима Лукашенко. 8 апреля исчезла бывший председатель Национального банка Тамара Винникова. 7 мая при загадочных обстоятельствах по пути домой пропал бывший министр внутренних дел генерал Юрий Захаренко. Местонахождение и нынешнее состояние г-жи Винниковой и генерала Захаренко до сих пор неизвестны.

Соединенные Штаты глубоко озабочены складывающейся тенденцией к исчезновению противников сохранения режима Лукашенко в Беларуси. Мы призываем правительство Беларуси приложить все усилия для установления местонахождения г-на Гончара, г-жи Винниковой и генерала Захаренко и обеспечения их безопасности.

## Государственному секретарю Совета безопасности Республики Беларусь В.Шейману

## Генеральному прокурору Республики Беларусь О.Божелко

16 сентября 1999 года около 23.00 при невыясненных обстоятельствах пропали первый заместитель председателя Верховного Совета Республики Беларусь Виктор Гончар и находившийся с ним Анатолий Красовский. Ранее пропал без вести Юрий Захаренко. Это члены нашей партийной организации.

Преследование по политическим мотивам, исчезновение известных в Беларуси граждан становится системой.

Фактически запрещено проведение массовых акций в г.Минске. Вместо обеспечения свободы собраний и права на мирные демонстрации власти выделили белорусским гражданам "резервацию" на площади Бангалор для проведения там митингов.

Минская городская организация ОГП требует от секретаря Совета безопасности Республики Беларусь и Генерального прокурора Республики Беларусь активизации действий, связанных с розыском потерпевших, своевременного информирования общественности о результатах розыска и обеспечении безопасности граждан Республики Беларусь, прекращения посягательств на их жизнь.

Мы требуем выполнения властью статьи 14 Закона Республики Беларусь "О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании" от 30.12.1997 года.

**Принято на Совете минской городской организации Объединенной гражданской партии 21 сентября 1999 года.**

## Адкрыты ліст прэзідэнту Расіі

Жонка знікшага 16 верасня г.г. першага намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара Зінаіда Ганчар накіравала адкрыты ліст прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну.

"Звяртаюся да Вас як да дзяржаўнага дзеяча, які ўнёс велізарны ўклад у пабудову дэмакратычнага грамадства не толькі ў Расіі, але і на ўсёй постсавецкай прасторы, — піша Зінаіда Ганчар. — 16 верасня ў Мінску былі выкрадзеныя мой муж — адзін з вядучых лідэраў беларускай апазіцыі, выконваючы абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Віктар Ганчар і ягоны сябар Анатоль Красоўскі. Іх лёс дагэтуль застаецца невядомым. Праваахоўныя органы Беларусі не прадпрымаюць фактычна ніякіх дзянняў па адшукванні Ганчара і Красоўскага, а таксама па выяўленні арганізатараў і выканаўцаў гэтага злачынства. Гэта не першае выкраданне актыўных апанентаў рэжыму за апошнія некалькі месяцаў... Я звяртаюся да Вас з просьбай умяшацца і дапамагчы спыніць тэрор у Беларусі, а таксама дапамагчы высветліць лёс майго мужа..."

Паводле звестак БелаПАН, ліст Зінаіды Ганчар ужо паступіў у адміністрацыю расійскага прэзідэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

## Сваякі і сябры знікшых В.Ганчара і А.Красоўскага былі выкліканыя ў пракуратуру Мінска

22 верасня Зінаіда Ганчар і Ірына Красоўская — жонкі знікшых 16 верасня Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, а таксама сакратар Ганчара Кацярына Антонік і ягоны кіроўца Яўген Лычоў былі выкліканыя да следчага Мінскай пракуратуры Сяргея Новікава для дачы паказанняў сведак па заведзенай крымінальнай справе.

Паводле інфармацыі, атрыманай БелаПАН ад К.Антонік, следчы паведаміў, што займаецца пакуль толькі афармленнем справы; вышуковыя мерапрыемствы праводзяцца сіламі ГУУС Мінскага гарвыканкама.

Тым часам сваякі і сябры знікшых сумесна з дэпутатамі Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання працягваюць падрабязна інфармаваць сусветную супольнасць аб сітуацыі, што склалася вакол знікнення В.Ганчара і А.Красоўскага. 22 верасня аб тым, што адбываецца, было паведамлена пасольствам ЗША, Германіі, Украіны, Чэхіі, Італіі, Ізраіля, Літвы, Вялікабрытаніі і іншых краін, прадстаўніцтву ААН у Беларусі, маскоўскай Хельсінкскай групе партыі "Дэмакратычны выбар Расіі", а таксама расійскім праваабаронцам Канстанціну Баравому, Валерыі Навадворскай і Сяргею Кавалёву.

У інфармацыйным паведамленні сяброў і паплечнікаў знікшых палітыка і бізнесмена адзначаецца, што "пасля заканчэння шасці дзён з моманту знікнення Ганчара і Красоўскага з АБСЕ, чыя Кансультацыйна-назіральная група працуе ў Мінску, не паследавала афіцыйнай заявы па факце выкрадання аднаго з вышэйшых службовых асоб Рэспублікі Беларусь".

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН.**

**Стоп-кадр**



На гэты раз не столькі артыстка спрабуе "завесці на скокі" гледача, колькі той яе. Здымак зроблены на Кастрычніцкай плошчы Мінска падчас асенняга кірмашу.

**Фота IREX/ProMedia.**

**Слышали?**

## Анатолий Лебедько встретился в Страсбурге с Расселом Джонсоном

Заместитель председателя ОГП, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Анатолий Лебедько встретился в Страсбурге с президентом Парламентской Ассамблеи Совета Европы лордом Расселом Джонсоном. На встрече был затронут широкий спектр проблем: от экономической ситуации в Беларуси до "Марша Свободы", который запланирован на 17 октября. Особое внимание было уделено вопросу политзаключенных М.Чигирю, А.Климову, В.Кудинову и факту исчезновения Юрия Захаренко, Виктора Гончара, Анатолия Красовского.

Президент Парламентской Ассамблеи выразил серьезную озабоченность в связи с начавшимся массированным давлением на негосударственную прессу со стороны властей. "В условиях подготовки к переговорам это несвоевременно и опасно", — сказал Р.Джонсон. Касаясь вопроса политических репрессий, президент ПАСЕ заявил, "что аресты, исчезновения политиков создают плохой климат для переговорного процесса. С таким багажом вступление Беларуси в Совет Европы в обозримом будущем проблематично".

**Пресс-центр БАМП.**

## 1 миллиард рублей родственникам жертв трагедии на "Немиге"

Один миллиард рублей передан оргкомитетом гражданской инициативы Хартия'97 родственникам жертв трагедии на "Немиге". Добровольные пожертвования семьям погибших сделаны гражданами Беларуси и США.

**Пресс-центр Хартии'97.**

**Пункт гледжання**

*"Народная воля" прысвяціла шэраг публікацый таму, што адбылося нядаўна ў вёсцы Мікалаеўка Светлагорскага раёна. Але вось мы атрымалі ліст, які падрыхтавала Ганна Сурмач па даручэнні Управы Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". У ім праблема разглядаецца пад іншым вуглом, здаецца, больш уважліва. Той, хто чытаў папярэднія публікацыі, напэўна, зацікавіцца і гэтай.*

## Небяспечныя гульні,
### ці Драма замежнага беларуса на Бацькаўшчыне

Трэці месяц утрымліваецца за турэмнымі кратамі ў Гомелі грамадзянін Расіі беларускага паходжання Анатоль Сілівончык. Пра сумна вядомыя падзеі ў вёсцы Мікалаеўка Светлагорскага раёна, што сталіся прычынай зняволення Анатоля, многа і па-рознаму паведамлялі беларускія сродкі масавай інфармацыі як дзяржаўныя, так і апазіцыйныя. Аўтары інфармацый, артыкулаў на гэту тэму ўсебакова аналізавалі падзеі, многія не пашкадавалі чорнай фарбы і, можна сказаць, намалявалі ёю цэлае эпічнае палатно на сюжэт разбойнага нападу расійскіх "беркутаў" на беларускую вёску. Добра, што пры гэтым успаміналі, што сп.Сілівончык і нешта добрае зрабіў для Беларусі, але гэта ўсё выглядала мізэрным у параўнанні з прадстаўленым непамерна вялізным злачынствам у Мікалаеўцы.

Кожны нармальны чалавек разумее, што нельга нічым апраўдаць тыя хуліганскія дзеянні, якія сапраўды мелі месца. Але, чытаючы шматлікія артыкулы, немагчыма пазбыцца міжвольнага пачуцця, што гісторыя гэта раскручана неадпаведна шырока.

Чым нас сёння здзівіш? Кожны дзень чытаем у газетах, бачым на экране тэлевізара інфармацыі пра жудасныя злачынствы, пра вайну і гібель маладых салдатаў на Каўказе. У друку паведамляліся факты, што ў Беларусь з Расіі наязджалі залётныя злачынцы, якія рабавалі, забівалі людзей і бесперашкодна вярталіся назад. Да ўсяго гэтага страхоцця мы амаль ужо прызвычаіліся, дзякуючы апанаваўшаму Беларусь Расійскаму тэлебачанню. Мы нават пачалі забываць і пра ўласную жудасную трагедыю на Нямізе, дзе загінула больш за паўсотні маладых людзей, але да сённяшняга дня нават адміністрацыйнага спагнання не атрымалі службовыя асобы, адказныя за дапушчаную злачынную халатнасць.

У Мікалаеўцы, дзякуй Богу, абышлося без горшага, а сама акцыя не была адпачатку зламыснай. Добра вядома, што прыезд групы дзяцей і падлеткаў з дзіцяча-юнацкай школы выжывання "Беркут" з г.Сургута меў сваёй мэтай удзел у святочных мерапрыемствах, прысвечаных 55-й гадавіне вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Усё было задумана дзеля выхаваўчай работы сярод дзяцей, што жывуць у Сургуце, вядомым сваімі праблемамі з наркаманіяй і злачыннасцю. Як справядліва мяркуе журналістка Т.Антонава, якая спецыяльна пабывала ў Сургуце і надрукавала свой артыкул "Сіндром вайны" ў газеце "Звязда", жорсткія ўмовы выхавання і нават муштра ў школе "Беркут" скіраваны не на падрыхтоўку нейкіх баевікоў, а на тое, каб не даць скаціцца ў багну наркаманіі і злачыннасці многім дзецям. Такое там жыцце і адпаведныя сродкі выжывання. Бацькі самі аддалі туды сваіх дзяцей, не знайшоўшы іншага выйсця. Вядома ж, гэта праблемы суседняй краіны і нас яны не павінны тычыцца. Але там жыве беларус А. Сілівончык, мае таксама двух сыноў і па гэтай прычыне добра разумее такія балючыя для сургутчан пытанні. Менавіта таму ён падтрымаў фінансава гэту паездку ў Беларусь. Ідэя яе ўзнікла падчас прыезду ў Сургут дачкі маршала Г.К.Жукава Маргарыты Георгіеўны Жукавай, якая распавядала дзецям пра аперацыю вызвалення Беларусі. Меркавалася, што група пройдзе маршрутамі аперацыі "Баграціён", а потым прыедзе ў Мінск, дзе здасць рапарт аб паходзе М.Г.Жукавай і Герою Савецкага Саюза А.А.Лосіку, чый танк першым уварваўся ў 1944 г. у наш горад. Экскурсія ў Беларусь павінна была быць не толькі выхаваўчай акцыяй, але ўзнагародай дзецям у час летняга адпачынку.

Падкрэслім, што А.Сілівончык не быў арганізатарам паездкі, ён з'яўляўся яе фундатарам і пасрэднікам на перамовах з уладнымі структурамі ў Беларусі. Безумоўна, нельга зняць з яго маральную адказнасць за тое, што адбылося. Аднак галоўная адказнасць павінна ляжаць на непасрэдных арганізатарах паездкі і яе кіраўніках. Нельга не ўлічваць і тое, што светлагорскія раённыя ўлады таксама не забяспечылі належных умоваў для правядзення на тэрыторыі раёна з іх згоды гульні "Зарніца" з удзелам дзяцей з Сургута. Пра тое, што ў раён прыехала группа з Расіі, у Салігорску было добра вядома. Перад гэтым госці ўдзельнічалі ва ўрачыстасцях ушанавання памяці ахвяраў канцлагера ў Азарычах, рэпартаж быў паказаны па Беларускім тэлебачанні. Аднак у Мікалаеўцы нават не быў выстаўлены міліцэйскі пост для забеспячэння грамадскага парадку падчас гэтага масавага мерапрыемства. Калі на добры лад, дык і дзяжурныя медыкі там павінны былі быць з машынай, не кажучы ўжо пра тое, што неабходна было папярэдзіць жыхароў і кіраўніцтва гаспадаркі. Усе гэтыя меры не былі прыняты і не па віне А. Сілівончыка.

Па ўласным вопыце ведаем, што любая дальняя паездка групы дзяцей — надзвычай складаная і адказная справа для яе арганізатараў. Арганізатарам гэтай паездкі не хапіла адказнасці, каб ажыццявіць задуманае прыстойна. Не было адпаведнага кантролю за дзейнасцю старэйшых падлеткаў і групы дарослых хлопцаў, якія менавіта і "разгуляліся" да таго, што ўчынілі адзінкавыя хуліганскія дзеянні, хоць большасць дзяцей ладзілі свае адносіны з жыхарамі вёскі міралюбна.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

**Надвор'е**

25—26 верасня воблачнае з праясненнямі надвор'е. Па паўночна-ўсходняй частцы — кароткачасовыя дажджы, уначы і раніцай па паўднёвым захадзе — туман. Вецер паўночна-заходні 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +6...+11, удзень — +15...+20; 26-га па паўночным ўсходзе — +12...+17.

**Мяжа**

## Беларускія і ўкраінскія памежнікі затрымалі групу нелегальных мігрантаў

Дзякуючы ўзаемадзеянню беларускіх і ўкраінскіх памежнікаў затрымана група нелегальных мігрантаў — грамадзян Кітая, якія спрабавалі праз тэрыторыю Беларусі і Украіны нелегальна выехаць на Захад.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў краіны, у Гомелі, у раёне чыгуначнага вакзала памежнікамі сумесна з супрацоўнікамі органаў унутраных спраў за незаконнае знаходжанне на тэрыторыі краіны былі затрыманыя шэсць грамадзян Кітая.

Разам з імі затрымалі і трох грамадзян Беларусі, якія, як высветлілася, выступалі ў ролі пасрэднікаў пры перамяшчэнні іншаземцаў у Заходнюю Еўропу.

Падчас разбору стала вядома, што група нелегальных мігрантаў складалася з 11 чалавек; пяць з іх былі перапраўленыя ва Украіну. Дзякуючы аператыўнаму ўзаемадзеянню памежнікаў дзвюх дзяржаў усе яны былі затрыманыя ўкраінскімі памежнікамі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Танную гарэлку ўсю вывезлі

На сустрэчы з журналістамі віцэ-прэм'ер урада Беларусі Аляксандр Папкоў прывёў статыстычныя звесткі, згодна з якімі за восем месяцаў гэтага года вытворчасць гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў склала 102,4 працэнта ў адносінах да адпаведнага перыяду 1998 года. Дадаткова быў арганізаваны выпуск моцных пладовых і іншых напояў. Тым не менш вось ужо некалькі тыдняў у дзяржаўным гандлі назіраецца востры дэфіцыт таннай гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў.

А.Папкоў лічыць, што дэфіцыт шмат у чым тлумачыцца вывазам гарэлкі за межы Беларусі. У краіне сярэдняя цана на яе сёння складае крыху больш за 300 тысяч рублёў за бутэльку, адначасова, паводле інфармацыі віцэ-прэм'ера, у Расіі і ва Украіне кошт адной бутэлькі складае 1,5 долара ЗША ў эквіваленце, у Латвіі — 3,5 долара ЗША, Літве — 6 долараў ЗША, Польшчы — 8 долараў ЗША.

Апошні раз цэны на гарэлку айчыннай вытворчасці павышаліся на пачатку верасня, і не выключана, што неўзабаве падымуцца зноў.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Аснова знешнеэканамічнай дзейнасці — бартэр

Падчас ліпеньскага апытання, праведзенага сацыёлагамі эканамічнага НДІ Міністэрства эканомікі Беларусі, кіраўнікам прамысловых прадпрыемстваў краіны былі прапанаваныя пытанні, якія датычаць знешнеэканамічнай дзейнасці ўзначальваемых імі прадпрыемстваў.

На пытанне "У якой форме ваша прадпрыемства рэалізуе сваю знешнеэканамічную дзейнасць?" большасць апытаных (70 працэнтаў) указалі на бартэр. На другім месцы — прамы экспарт (51 працэнт). 48 працэнтаў кіраўнікоў адзначылі вытворчасць прадукцыі па кантрактах і кожны трэці (34 працэнты) — прамы імпарт.

Па дапамогу да айчынных фірм у якасці пасрэднікаў пры экспартных аперацыях звяртаецца 25 працэнтаў рэспандэнтаў. 9 працэнтаў апытаных супрацоўнічаюць з замежнымі фірмамі-пасрэднікамі.

Як паведаміла БелаПАН кіраўнік даследавання Ларыса Хмуровіч, у якасці асноўных перашкодаў развіцця знешнеэканамічнай дзейнасці прадпрыемстваў рэспандэнты называлі неэфектыўны абменны курс (71 працэнт), падатковую палітыку ў дадзенай сферы (38 працэнтаў), моцную канкурэнцыю з боку замежных вытворцаў (30 працэнтаў) і нізкі ўзровень тэхнічнай базы вытворчасці разам з нізкай якасцю прадукцыі (31 працэнт).

**Леанід ІГНАЦЬЕЎ.**

## Сотні мільёнаў рублёў склалі ў Віцебску выдаткі з-за званкоў пра "замініраванне"

Трэці за гэты тыдзень ананімны званок пра наяўнасць у памяшканні выбуховай прылады парушыў нармальны рэжым працы віцебскай сярэдняй школы N1.

Такім жа чынам раней былі сарваны ўрокі ў 31-й і 34-й школах абласнога цэнтра. Ва ўсіх трох выпадках рабілася экстраная эвакуацыя вучняў і персаналу школы, на месца прыбывалі сапёры і брыгады "хуткай дапамогі"; выдаткі склалі сотні мільёнаў рублёў. Выбуховыя прылады не знойдзены, але саміх тэлефонных тэрарыстаў міліцыя мае намер ўсё ж вылічыць.

Да відавочнага засмучэння некаторых вучняў школы N1 сарваныя заняткі былі часткова перанесеныя на другую змену, часткова — на іншыя дні тыдня.

**Леанід СІМАНАЎ.**



Пр. Сямёна, Фёдара, Юльяна.
К. Амелії, Аўрэліі, Святаполка, Уладзіслава.

**60 гадоў** з дня нараджэння (1939) С.П.Данілюк, беларускай спявачкі, народнай артысткі Беларусі.

**ВЕРАСЕНЬ**
**25**
**'99 СУБОТА**

Усход 7.01
Захад 19.01
Даўж. дня 12.00

Поўня 13.51
Захад 7.55
Усход 20.27



**Стоп-кадр**

Пикет солидарности с югославским народом прошел в центре Минска. Солидарные с борющимся югославским народом белорусы развернули на перекрестке улиц Городской Вал и Немига транспаранты "Сербия — Беларусь, за вашу и нашу свободу!", "За Югославию без Милошевича!" и привычный уже минчанам лозунг "Диктатуре — капец!". На этом же пикете был впервые выставлен логотип "Марша Свободы", который пройдет в Минске 17 октября. Прохожие с удовольствием разбирают газеты-листовки и специальные листовки с информацией об исчезновении Виктора Гончара. На пикет пришли родственники и близкие пропавшего вице-спикера. В акции также участвовали депутаты Верховного Совета Валерий Щукин и Людмила Грязнова. В пикете приняло участие около 30 человек.

**Крымінал**

## У Брэсце затрыманы мясцовы жыхар, у якога знойдзена ўзрыўчатка

Падчас планавых мерапрыемстваў па прадухіленні арганізацыі надзвычайных здарэнняў супрацоўнікі праваахоўных органаў Брэста затрымалі жыхара абласнога цэнтра, у якога былі канфіскаваныя тратылавыя шашкі і дэтанатары.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, у 50-гадовага грамадзяніна былі знойдзеныя і канфіскаваныя 1 тратылавая шашка вагою 200 грамаў, 4 тратылавыя шашкі па 75 грамаў кожная, а таксама 6 дэтанатараў. Супраць брэстчаніна ўзбуджана крымінальная справа, вядзецца следства, якому трэба будзе высветліць, дзе Н. узяў узрыўчатку, а таксама куды і з якой мэтай яе пераносіў.

"Не пашанцавала" і ваеннаму пенсіянеру з Пінска, у кватэры якога супрацоўнікі міліцыі днямі знайшлі мноства патронаў для пісталета і аўтамата. А папаўся ён на тым, што ў начным аддзеле пінскай харчовай крамы N 8 спрабаваў прадаць тратылавую шашку... супрацоўніку міліцыі.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

**Гучная справа**

## Тамары Віннікавай у Беларусі няма?

"Магу сказаць амаль на 90 працэнтаў, што Тамары Віннікавай у Рэспубліцы Беларусь няма", — такую заяву зрабіў начальнік галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі МУС Мікалай Лапацік на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

М.Лапацік даў зразумець, што праваахоўныя органы валодаюць звесткамі аб месцах, дзе можа знаходзіцца экс-старшыня праўлення Нацыянальнага банка, якая знікла 7 красавіка 1999 года з-пад хатняга арышту: "Тыя месцы, у якіх яна знаходзіцца, — напэўна, гэта элемент прафесійнай тайны, і мы будзем працаваць у гэтым кірунку...". М.Лапацік адмовіўся казаць пра падрабязнасці, спасылаўшыся на тое, што "ў Тамары Віннікавай ёсць грошы" і яна можа мяняць месцазнаходжанне. "Яе сын знаходзіцца за мяжой са сваёй сям'ёй. Не так ужо і галадае ў цяперашні час і другі яе сын тут", — сказаў начальнік галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі.

Паводле ягоных слоў, зараз ідзе міждзяржаўны вышук Т.Віннікавай з удзелам Інтэрпола. Пад непасрэдным кантролем начальніка галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі МУС спецыяльная вышуковая група праводзіць "комплекс мерапрыемстваў, у асноўным аператыўнага характару".

Што да расследавання абставінаў знікнення былога міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі ў межах заведзенай вышуковай справы, то, паводле слоў М.Лапаціка, галоўнае ўпраўленне крымінальнай міліцыі і ГУУС Мінгарвыканкама не маюць інфармацыі аб тым, што з ім здарылася і дзе ён знаходзіцца, нягледзячы на "велізарнейшы" аб'ём праведзенай працы.

"Практычна нулявая інфармацыя... Прафесійна вельмі складаная справа", — канстатаваў М.Лапацік.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Беларусь будзе вымушана імпартаваць каля 1,5 мільёна тон збожжа

Сёлета Беларусь будзе вымушана імпартаваць каля 1,5 мільёна тон збожжа, у тым ліку 500 тысяч тон — харчовага. Пра гэта 23 верасня на прэс-канферэнцыі заявіў намеснік прэм'ер-міністра Беларусі Аляксандр Папкоў, які курыруе ва ўрадзе працу аграпрамысловага комплексу.

Паводле ягоных слоў, зерневымі культурамі сёлета было засеяна каля 2,5 мільёна гектараў; сярэдняя ўраджайнасць склала 17,3 цэнтнера з гектара. Чакаецца, што валавы збор збожжа паводле вынікаў уборкі складзе 4,2 мільёна тон, калі для забеспячэння харчовай бяспекі неабходна 5 мільёнаў тон (нагадаем, што першапачаткова ўраджай збожжавых планаваўся ў аб'ёме каля 6,3 мільёна тон).

На закупку збожжа да 1 студзеня 2000 года павінна быць выдзелена каля 100 мільёнаў долараў ЗША. Паводле слоў віцэ-прэм'ера, ужо падпісана адпаведная пастанова Савета Міністраў, якой вызначаны асноўныя крыніцы фінансавання — валюта, беларускія рублі, матэрыяльныя рэсурсы. На сённяшні дзень сканцэнтравана рэсурсаў на 60 мільёнаў долараў ЗША.

Расплачвацца за зерне рэспубліка мае намер як з дапамогай тавараабменных аперацый (пастаўкі сельгастэхнікі і інш.), так і непасрэдна валютай. Сярод магчымых пастаўшчыкоў зерня ў Беларусь А.Папкоў назваў Казахстан і некаторыя расійскія рэгіёны — Валгаградскую вобласць, Краснадарскі і Стаўрапольскі край.

На думку віцэ-прэм'ера, праблем з харчовым збожжам у рэспубліцы не будзе. Ёсць складанасці з забеспячэннем фуражным збожжам, але і яны павінны быць вырашаны, для чаго дзяржавай таксама прынятыя неабходныя рашэнні.

**Аляксей АРЭШКА, БелаПАН.**

